Цана асобнага нумару 15 гр. | Przesyłka opłacona ryczałtem.

№ 68 (119). Вільня, Серада 21 Верасьня 1927 г. Год III.

# СЯЛЯНСКАЯ НІВА

Няхай жыве Беларускі Народ!

Адрэс Рэдакцыі і Адміністрацыі:
ВІЛЬНЯ, ЗАВАЛЬНАЯ 6. (Wilno, Zawalna 6.).
Рэдакцыя адчынена штодня ад 9 да 3 гадзінм апрача сьвята.
Рэдактар прыймае ад 12 да 2 гадз.

Зямля Сялянству бяз выкупу!

Падпіска:
на адзін месяц — 1 зал., на 3 месяцы — 2 зал., на 6 месяцаў 4 зал., на год — 8 зал.
Для заграніцы удвая даражэй.
Аплата надрукаванага залежыць ад рэдакцыі
ВЫХОДЗЕ Ў СЕРАДУ І СУБОТУ.

ОРГАН БЕЛАРУСКАГА СЯЛЯНСКАГА САЮЗУ.

## Нявольніцкая псыхалёгія.

Усім добра ведама, што быў час, калі людзі былі нявольнікамі ў поўным значэньні гэтага слова. Чалавек-нявольнік тады ня быў суб'ектам права, які мог выступаць з дамаганьнямі выкананьня пэўных абавязаньняў, а быў толькі аб'ектам права, г. зн. рэчай, ці жывёлінай. Такі нявольнік ня меў ніякіх правоў, ім пан распараджаўся як хацеў. Пры такіх абставінах жыцьця псыхіка нявольніка была вельмі абмяжаванай, а таксама і абмяжаваны яго патрэбы. Аб долі нявольніка думаў пан, а нявольнік быў толькі папіхачом, ды і думаць яму нічога ня трэба было, бо ўсё роўна пан ня пытаўся нявольніка, чаго яму трэба. У сувязі з гэтым нявольнік ведаў толькі адно, што аб ім думае пан, які, як захоча, так і зробе з нявольнікам. Але нявольніцтва ўжо даўно мінула, мінуў і прыгон, мінуў час падданства, а сярод людзей спатыкаем яшчэ шмат асоб, якія трымаюцца нявольніцкай псыхалёгіі, г. зн. такіх людзей, якія ня хочуць самі думаць і вырашаць аб сваім лёсе, але здаюцца дабравольна на ласку ці неласку іншых, якія выдаюцца магутнейшымі.

Пішучы гэта, перадусім маю на мэце некаторыя беларускія палітычныя кірункі з нявольніцкай псыхалёгіяй.

Перадусім возьмем заходні кірунак, ці іначай кажучы, паланафільскі кірунак. Гэты кірунак, прапагандаваны часопісамі: „Беларускім Днём“ і „Беларускім Словам“ выразна кажа, што Беларускаму Народу будзе найлепш, калі ён сам ня будзе мяшацца ў палітычныя справы, а толькі займецца гаспадарчай і культурнай працай, адным словам, калі сам народ перастане дбаць аб сабе, а пакіне гэта тым, якія ўжо маюць сваю дзяржаву і затым лепш патрапяць кіраваць Беларусамі. Такая бязмежная вера ў розум і справядлівасьць пана, якому безапэляцыйна перадае паланафільскі кірунак увесь Беларускі Народ і даручае пану дбаць аб долі беларускага сялянства, ня маючы ніякіх даных на тое, што гэтая апека будзе добраю, ня інакш можа быць названаю, як толькі нявольніцкаю псыхалёгіяй.

Возьмем цяпер другі кірунак усходні, ці інакш саветафільскі. Гэты кірунак падтрымлівае беспрынцыповая газэта „Наша Праўда“. „Н. Праўду“ беспрынцыповай называем затым, што яе кіраўнік А. Луцкевіч не прытрымліваецца ніякіх прынцыпаў, ніякай ідэалёгіі, ён ужо быў: і сацыялістым, і нацыяналістым, і паланафілам, і германафілам, і франкафілам, і літвінафілам, і безвызнанёўцам, і мэтадыстам, і „безпартыйным“, і „ідэйным“ грамадзістым, і маскалафілам, і нарэшце „санацыйным, спадаровым сельсаюзьнікам“.

Вось гэта, даволі вульгарная часопісь, (кожны чытач сам праканаўся ў гэтым), бачыць свайго бога ў Маскве ў Крэмлі. Кірунак гэтай часопісі бачыць свой ідэал на ўсходзе, дзе ня прызнаюць ніякай нацыянальнай культуры, ня прызнаюць сялянства, як гаспадара на сваім уласным куску зямлі, дзе безкантрольна, бюрократычна і дэспатычна кіруе ўсім грамадзкім, палітычным, гаспадарчым і культурным жыцьцём, вызначаны компартыяй камісар, перад якім дрыжаць ня толькі сяляне, але і работнікі. Хто мае якіх сваякоў у Савецкім Саюзе сярод сялян і работнікаў, той добра ведае, што гэтыя сваякі яму нічога ня пішаць аб іхным добрым жыцьці. Чаму? Мо' ім так добра, што забыліся аб сваіх родных у Заходняй Беларусі? Ім вельмі блага, так блага, што на'т аб гэтым і напісаць ня можна, бо ўвесь Саюз, як у нас „выввядоўцамі“, перапоўнены там працаўнікамі Г. П. У.

І вось, перад такім працоўнікам з Галоўнага Палітычнага Упраўленьня, якое знаходзіцца пад камандай Паляка Мянжынскага, ці перад іншым камісарам, схіляе сваю галаву „Наша Праўда“ і кажа: „Беларускаму сялянству і беларускім работнікам будзе толькі тады добра, калі яны ўсе дабравольна аддадуцца пад каманду камісарскае ўлады. Вось у гэтым і выяўляецца нявольніцкая псыхалёгія кірунку „Нашае Праўды“. „Наша Праўда“ імкнецца вырваць Беларускі Народ з панска-буржуазнай няволі і перадаць яго ў няволю камісарскую.

Бачым, што першы і другі кірунак зьяўляюцца супраціўнымі кірункамі, адзін проці другога створанымі, аднак як адзін, так і другі ня прынясуць вызваленьня Беларускаму Народу, бо працуюць на сваіх паноў і на шкоду беларускага адраджэнскага руху.

Як процілежнасьць нявольніцкай псыхалёгіі і нявольніцкім кірункам істнуе адзіны запраўды незалежніцкі кірунак, гэта кірунак рэпрэзэнтаваны Беларускім Сялянскім Саюзам і яго органам—„Сялянскай Нівай“. Сялянскі Саюз вызваліўся ўжо з путаў нявольніцкай псыхалёгіі і кажа: Беларускі Народ толькі тады здабудзе сабе лепшую долю, калі беларускае сялянства здабудзе зямлю, а работнікі фабрыкі, калі стане ў сваім краі поўным гаспадаром, незалежным ані ад буржуя-пана, ані ад камісара—быццам пралетарыя.

Вось гэтую незалежнасьць ніхто нам не дасьць, нам самім яе трэба здабываць. Здабыць яе можна толькі тады, калі ніводнага сярод беларускага сялянства і сярод беларускіх работнікаў ня будзе з нявольніцкаю псыхалёгіяй. Усімі сіламі і натугамі нам трэба імкнуцца вызваліцца з гэтае нявольніцкае псыхалёгіі і рабіцца грамадзянамі, якія патрапяць самі кіраваць сваім лёсам і сваім гаспадарствам.

А. Незалежнік.

## Зачыненьне Соймавай Сэсіі.

Учора, дня 20-га верасьня, як толькі было адчынена паседжаньне Сойму, забраў голас віцэстаршыня ўраду п. Бартэль і прачытаў дэкрэт аб адлажэньні Соймавай Сэсіі на 30 дзён.

## Перамога нацыянальнага фронта.

### Пасол Юры Сабалеўскі ў Белар. Пас. Клюбе

У часе апошняга паседжаньня Сойму якое адбылося ў панядзелак 19-га верасьня пасол Юры Сабалеўскі выступіў з Клюбу „Беларускай Работніцка-Сялянскай Грамады“ і падаў заяву аб уступленьні ў Беларускі Пасольскі Клюб, якога старшынёй ёсьць пасол Ф. Ярэміч.

### Паслы Шакун і Шапель пакінулі Р. П. З. В.

У дзень паседжаньня Сойму паслы раней з Незал. Парт. Хл. а цяпер з Радыкальнае партыі Заходняй Беларусі зьліквідавалі гэтую партыю і падалі заявы ў Беларускі Пасольскі Клюб з просьбай аб прыняцьці іх у сябры Клюбу.

### Пасол Пашчук пакінуў камуністычную фракцыю.

Украінскі пасол Пашчук, які належыў да Камуністычнае фракцыі пасольскай, выступіў з гэтае фракцыі і падаў заяву аб прыняцьці яго ў сябры Украінскай Парлямэнтскай Рэпрэзэнтацыі (Нацыянальнага Украінскага Клюбу).

## З Лігі Народаў.

### Правы нацыянальных меншасьцяў.

Вольф Л., прадстаўнік інтарэсаў жыдоў у сабраньні Лігі Народаў, зьвярнуўся з пісьмом да гэнэральнага сэкрэтара Друмонта Э., у якім дамагаецца, каб у Раду Лігі ня былі выбіраны прадстаўнікі тых дзяржаў, якія ня выканалі абавязаньняў што да праў нацыянальных меншасьцяў.

### Прапазыцыя аб ненападаньні.

Камісія Лігі Народаў у справе разаружаньня прыняла польскі праект аб ненападаньні; прадстаўнік Японіі выступіў з дамаганьнем аб агранічэньні польстага праекту, толькі выпадкамі вайны між дзяржавамі, што ўваходзяць у Лігу Народаў.

